*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 18 (704)** **18 ТРАЎНЯ 2005 г.**

**NESTLE FOOD LLC**
**Valovaya str. 1, bld.1 (Paveletskaya sq. 2, bld.1)**
**Moscow, Russia, 115054**
**Tel: (7095) 725-7000**
**Fax: (7095) 725-7070**




April 25, 2005

**Mr. Aleh Trusau**
**The Chairman of**
**the Belarusian Language Society**

Дзякуй Вам за пісьмо ад 29 сакавіка 2005 года, у якім ішла размова аб выкарыстанні беларускай мовы ў некалькіх нашых рэкламных роліках.

Паколькі "Нестле" вядзе сваю дзейнасць у глабальных маштабах, кампанія ўлічвае патрэбнасць і жаданні мясцовых спажыўцоў, а таксама культурныя і моўныя адрозненні. Мы расцэньваем беларускі рынак як вельмі важны для нас, і мы з вялікай павагай адносімся да мясцовых традыцый і мовы і робім усё магчымае, каб нашы прадукты і маркетынгавая палітыка адпавядалі спадзяванням беларускіх спажыўцоў.

Дзякуй Вам яшчэ раз.

**General Director of Nestle Food LLC – Bernard Meunier.**

# Першыя крокі ў навуку

Пад такім дэвізам прайшла VI Смаргонская навукова-практычная краязнаўчая канферэнцыя, якая адбылася 22-га красавіка ў чацвёртай гарадской гімназіі. Яе ўдзельнікі - гімназісты старэйшых класаў. Працавалі тры секцыі: беларускай мовы і літаратуры, прыродазнаўчых навук, гісторыі.

Мне выпала выслухаць вучнёўскія паведамленні на секцыі беларускай мовы і літаратуры. Іх было шэсць. Прынамсі:

1. Літаратурная спадчына Смаргоншчыны.

2. Моўны этыкет.

3. Максім Багдановіч: паэт-музыка, паэт-жывапісец.

4. Тапаніміка і антрапаніміка: найбольш цікавыя раздзелы анамастыкі. Даследаванне асаблівасцяў мясцовых назваў і імён.

5. Набліжэнне да Францішка Багушэвіча.

6. Вобраз бацькаўшчыны ў аповесці Артура Цяжкага "Смутак".

Адпаведна іх аўтарамі былі: Васільева Карына, 10 "В" клас (кіраўнік У. У. Прыхач), Высоцкі Дзмітры, 8 "А" клас (кіраўнік Г. Я. Рудая), Кавяза Алена, 8 "А" клас (кіраўнік Г. Я. Рудая), Гусь Святлана, УА "СШ № 1 г. Ашмяны", Айрапецян Навэла, 8 "А" клас (кіраўнік Г. Я. Рудая), Ермаловіч Кацярына, 8 "Г" клас (кіраўнік Т. А. Буйноўская).

Усе гэтыя паведамленні выслухаў я, скажу шчыра, з трапяткім хваляваннем, калі не сказаць, з замілаваннем. Здавалася, калі б была мая воля, я ўсіх юных рэферэнтаў залічыў бы на філалагічны факультэт: гэткія іхнія паведамленні былі глыбокія, пранікнёныя. Асабліва мяне ўразіла паведамленне васьмікласніцы Навэлы Айрапецян "Набліжэнне да Францішка Багушэвіча". Тэма гэтага паведамлення глыбінная: набліжэнне да Францішка Багушэвіча - гэта значыць набліжэнне да ўсяго нацыянальнага, да ўсяго беларускага. Уразіла і тое, што за гэтую тэму ўзялася дзяўчынка з армянскім прозвішчам і імем. Пад час перапынку я не стрымаўся, падышоў да Навэлы Айрапецян, пацікавіўся, хто яна, чаму абрала такую тэму. На мае пытанні Навэла адказала: "Тэму "Набліжэнне да Багушэвіча" я абрала таму, што лічу асобу гэтага пісьменніка вельмі важнай у гісторыі і развіцці беларускай мовы і літаратуры".

Пра сябе ж Навэла паведаміла: "Мяне так назвалі таму, што такое імя мела мая бабуля - татава маці. А мой тата армянін. Але я ўжо нарадзілася ў Смаргоні. Мама мая - беларуска..."

Здаецца, усё проста і зразумела. І ўсё ж, чаму ж мяне гэтак усхвалявала Навэліна паведамленне?

Пэўна таму, што яна, чалавек новай генерацыі, адчула ў Багушэвічавай постаці гарманічную цэласнасць паэтавага светапогляду на свой народ, яго мову, гісторыю, сугучнага ёй.

Перакананы, змест Навэлінага паведамлення станецца з цягам часу яе глыбокім перакананнем, а гэта ўжо зарука, што парыванні Багушэвічавай душы былі не марныя. Яны трапляюць у спрыяльную глебу XXI стагоддзя і даюць добры плён.

Цікавыя былі вучнёўскія паведамленні і на гістарычнай секцыі. Усе яны з пазнання гісторыі роднага краю, роднай Смаргоншчыны. Сярод іх:

1. Культавыя помнікі Смаргоншчыны. Шышкевіч Ганна, 10 "Б" клас (кіраўнік Абушка І. А.).

2. Спаса-Прэабражэнская царква ў Смаргоні. Новаш Павел, 10 "В" клас (кіраўнік Абушка І. А.).

3. Папяровы млын у Смаргоні. Чырыца Алена, 10 "В" клас (кіраўнік Абушка І. А.).

4. Ігнат Дамейка: вучоны, этнограф, фальклярыст. Казачонак Кацярына, 10 "Б" клас (кіраўнік Абушка І. А.).

Вайсковыя баталіі на Смаргоншчыне ў XX стагоддзі таксама не былі абыдзены юнымі краязнаўцамі, іх першыя крокі ў навуку абнадзейваюць. Балазе, усе працы юных даследчыкаў, як паведамілі кіраўнікі шостай Смаргонскай навукова-практычнай канферэнцыі, будуць надрукаваны ў агульным зборніку.

***Уладзімір Содаль.***

# Юбілей Людмілы Майсені

У пачатку траўня адзначыла круглую дату ў сваім жыцці адна з найвыдатнейшых патрыётак Беларусі, дачка старажытнай Нясвіжчыны, палымяны змагар за беларускую мову **Людміла Майсеня**.



Народжаная ў сям'і беларускіх вясковых інтэлігентаў, ёй не давялося ў пачатку 90-х вяртацца да беларускасці, як многім у той час. Яна была беларускаю і ў 70-я, і ў 80-я. Закончыўшы фізіка-матэматычны факультэт Менскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, Людміла Майсеня выкладала вышэйшую матэматыку ў Менскім радыётэхнічным інстытуце і Менскім радыётэхнічным каледжы, дзе працуе і зараз.

Ёй не трэба было чакаць на покліч роднага краю, яна здольная была пачуць і самы ціхенькі шэпт. Як толькі першыя нацыянальныя сокі пабеглі па карэньчыках амаль засохлага дрэва Беларушчыны, Людміла Майсеня стала ў шэрагі нацыянальнай інтэлігенцыі, стала на шлях адраджэння. Яна ўвайшла ў шэраг грамадскіх арганізацый, была сябрам сойму БНФ "Адраджэньне", на сёння з'яўляецца сябрам Рады ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны". Але не ў выступы на сходах і мітынгах укладала сваю энергію і сваё натхненне гэтая ў многім імпульсіўная і бескампрамісная жанчына. На стаптаным полі Беларушчыны ўбачыла яна сваю дзялянку і пачала вырабляць яе мэтанакіравана і ўпарта, штодзённа і на працягу многіх гадоў.

Вярнуць беларускую мову ў вышэйшую матэматыку ці вярнуць вышэйшую матэматыку ў беларускамоўную навуку. Гэта стала сэнсам жыцця і аб'ектам прыкладвання творчых сілаў кандыдата фізіка-матэматычных навук Людмілы Майсені. Пра стан матэматычнай навукі ў Беларусі дакладна сказана ў артыкуле Людмілы Майсені і Васіля Юферава "Знішчэнне беларускай адметнасці ў матэматычнай тэрміналогіі": "Амаль 60 гадоў у Беларусі не выдалі па-беларуску ніводнага падручніка па матэматыцы ні для ВНУ, ні для сярэдніх спецыяльных установаў... **Беларуская мова як мова матэматычнай навукі перастала існаваць.** Матэматычныя артыкулы па-беларуску не друкаваліся на працягу шасці дзесяцігоддзяў - да ўзнаўлення нашай незалежнасці..." ("Аняменне ...", 2000 г.) Супраць гэтай катастрафічнай сітуацыі і выступіла са сваімі калегамі і аднадумцамі Людміла Майсеня.

ЛЮДМІЛА МАЙСЕНЯ

КУРС ВЫШЭЙШАЙ МАТЭМАТЫКІ

Яна адной з першых перайшла на выкладанне вышэйшай матэматыкі па-беларуску і ўвайшла ў аўтарскія калектывы па напісанні трохтомнага "Курса вышэйшай матэматыкі" (апошні том выйшаў у 2003 годзе) на беларускай мове, а таксама "Матэматычнай энцыклапедыі" (2001 г.). Пры гэтым так атрымалася, што каб давесці выданне трохтомніка да канца Людміле Майсені давялося 3-ці том напісаць адной. У том увайшлі такія раздзелы як "Тэорыя функцый комплекснай зменнай" і "Аперацыйнае злічэнне". Зразумела, што выданню гэтых кніг папярэднічала зацятая барацьба на полі тэрміналогіі, і тое, што матэматычная тэрміналогія ў гэтых кнігах набыла беларускае гучанне, з'яўляецца вынікам цвёрдых пазіцый Людмілы Майсені па гэтым пытанні.

Людміла Майсеня была старшынёй рэдкалегіі і згаданай ужо кнігі "Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы" (2000 г.), найбольш грунтоўнага выдання, здзейсненага ТБМ. Яна не толькі сабрала ўвесь матэрыял для кнігі і, фактычна, сфармавала структуру рукапісу, але і прыдумала назву "Аняменне".

На сёння, у свой юбілейны год, Людміла Майсеня прадаўжае самаахвярна працаваць для Беларусі, і ТБМ можа ганарыцца, што ў яго шэрагах знаходзіцца такая адданая беларускай справе жанчына.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра вінуюць спадарыню Людмілу Майсеню з юбілеем і зычаць ёй плёну на ніве самаадданай і руплівай працы на карысць Беларусі.

# Перабежчыкі

Беларусы, як і ўкраінцы, жывуць на стыку дзвюх канфесій — каталіцкай і праваслаўнай, а гэта значыць, на стыку заходняй і ўсходняй еўрапейскіх цывілізацый. Таму часта беларусам даводзілася выбіраць адно або другое. Каб пазбавіцца гэтага выбару ў 1596 г. была падпісана Берасцейская царкоўная унія, якая паслужыла да 1840 г. своеасаблівым мастом паміж праваслаўнай і каталіцкай культурамі. І калі царкоўная унія некалькі згладзіла трэнні царкоўнага характару, дык засталіся супярэчнасці палітычныя і сацыяльныя. Яны існавалі ўвесь час, на працягу стагоддзяў. Не зніклі яны і цяпер.

Часта даводзілася ліцьвінам-беларусам выбіраць паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй або Расійскай імперыяй, паміж Рэччу Паспалітай і СССР. І маім дзядзькам па мацярынскай лініі давялося некалі рабіць гэты выбар. Жылі яны тады ў Заходняй Беларусі, якая была ў складзе Польшчы. Іван Варановіч (брат маёй маці) жыў у вёсцы Касічы, гміны Войстамскай, павету Вілейскага, ваяводства Віленскага, а Фадзей Роліч — у вёсцы Ролічы, гміны Вішнёўскай, павету Свінцянскага, ваяводства Віленскага. Фадзей ажаніўся з Маняй, якая даводзілася сястрой маёй маці Соні.

Каля 1930 г. Іван і Фадзей яшчэ былі дзецюкамі і рашылі кожны паасобку пашукаць шчасця за мяжой. Яны вырашылі знайсці яго на ўсходзе. Задумалі ўцячы з Польшчы ў Савецкую Беларусь, бо там няма паноў, і самі працуюць на сябе. Так думалі многія мужыкі, асабліва моладзь.

Камуністычная партыя Заходняй Беларусі і Беларуская сялянска-работніцкая грамада гэтыя настроі падтрымлівалі ў народзе і вялі актыўную агітацыю, тым самым і папаўнялі суполкі ў вёсках і мястэчках. Іван Варановіч стаў сябрам Таварыства беларускай школы і падтрымліваў Грамаду, якой кіраваў Браніслаў Тарашкевіч. Фадзей Роліч ні ў якія суполкі не ўваходзіў. І Варановіч і Роліч паспрабавалі каля мястэчка Радашковічы перайсці польска-савецкую мяжу, але былі затрыманы памежнікамі яшчэ на польскім баку.

Як жа далей склаўся іх лёс? Аб гэтым мне расказалі самі перабежчыкі ў 1973 ці 1974 годзе, пасля смерці маёй маці. Я на той час працаваў недалёка ад Радашковічаў. Выкладаў у школе гісторыю. І мне хацелася ведаць, як жылося маёй маці і маім дзядзькам пры Польшчы, у той краіне, дзе і я нарадзіўся ў 1937 годзе. Я папрасіў кожнага дзядзьку расказаць, як яны ацэньваюць праз 40 гадоў свае ўчынкі маладосці. Пытанне я ім задаў у дарозе. Мы ішлі з вёскі Нарочы на наш хутар Струменне, які тады быў каля вёскі Касічы. Цяпер яго ўжо няма, ды й вёска дажывае свой век.

Іван Варановіч расказаў пра свае прыгоды на граніцы так:

— Пераходзіў граніцу каля Радашковічаў я двойчы. Першы раз нават удачна. За грошы праваднік правёў мяне, і я трапіў да савецкіх пагранічнікаў. Тыя дапыталі мяне, і адправілі назад, дадому. Сказалі: "Каб ты пана забіў або спаліў яго сялібу, дык тады можа б мы прынялі". Не памагло і тое, што я, як дурань, прасіўся да сястры ў Сібір. Яна там засталася, як мы былі ў бежанстве ў 1915—1921 гадах.

Недзе праз год, — распавядаў Іван, — я направіўся зноў пад Радашковічы. Хацеў каля граніцы штонебудзь падпаліць, але не змог. Папрасіў праваднікa, каб паказаў патаемную сцежку на савецкі бок. Але на гэты раз праваднік здаў мяне польскім пагранічнікам.

Пасадзілі мяне ў камеру, нават належным чынам не абшукаўшы. Да мяне ў камеру падсадзілі крымінальніка, злодзея. Я яму па вясковай прастаце і расказаў, што з дакументамі Грамады і ТБШ хацеў уцячы ў БССР. Назаўтра той злодзей на допыце следчаму заявіў: "Ну што я благога зрабіў? Падумаеш, у пана барана ўкраў. Што ён у пана адзін ці што? Не збяднее той пан без аднаго барана. У вас у камеры сапраўдны злачынца сядзіць, не абыякі, палітычны. Ён усё гаспадарства хоча ў вас украсці".

На наступным допыце маю ватоўку (ці світку) добра абмацалі і знайшлі тыя дакументы, пра якія я расказаў сукамерніку. Мяне адправілі ў пастарунак гміны ў Войстама, для разбору па месцы жыхарства.

У тым Войстамскім пастарунку я сядзеў нядоўга. Неяк увечары паліцэйскі, які мяне ахоўваў, пайшоў вячэраць і затрымаўся. А я тады часу не губляў, пакуль ён вячэраў, я разабраў комін печкі і ўцёк. Уцёк дамоў. А каб зноў не забралі, асядлаў пугу і на ёй прыехаў да пана Міхала Бахчанскага ў Равутку шукаць бацьку. І пан, і бацькі, і ўся вёска ўспрынялі тое, што бачылі. Здурнеў. І мяне пакінулі ў спакоі. Не чапалі. Нават на допыт не выклікалі.

Праз нейкі час, можа праз год, быў набор у Вілейцы на работу ў Францыю. Стаяла доўгая чарга, і я заняў чаргу. Паліцэйскія ўбачылі, што я стаў у чаргу на выезд, падышлі і запыталі:

— Варановіч, хочаш у Францыю паехаць?

— Хачу.

— Дапаможам, — сказалі мне.

Паліцэйскія павялі мяне ў офіс і ўсе дакументы на выезд у Францыю аформілі без чаргі. Яны мелі сваю рацыю — хай едзе хоць у Францыю, абы не бунтаваў тут, цішэй будзе. Я там на шафёра вывучыўся. Грошай зарабіў. Прыслаў франкаў бацьку на студню, а Соні (маёй маці — *С.Б.*) — на пасаг. Соня змагла зямлю ў пана купіць і жыць на сваім хутары. Шкада што ў калгас загналі. І поле, і сенажаць, і лясок ды рэчка пабач. І ўсё разам. Вясёлае месца.

— А мне цяжэй было, — стаў расказваць Фадзей. — Злавілі на граніцы. Судзілі. Далі няшмат — паўгода. Увесь час у турме не быў. Капаў канаву каля Кобрына, пад аховай паліцэйскіх. А ведаеш, пляміш, я на палякаў не ў крыўдзе. Сёння я нават рады, што палякі злавілі мяне, бо тыя дзецюкі (каля 20 чалавек) з Іжа або іншых вёсак, што перайшлі польска-савецкую мяжу былі прыняты за шпіёнаў і аказаліся ў лагеры ў Сібіры. З нашай кумпаніі толькі аднаго сустрэў з Іжа. Удалося яму выжыць і вярнуцца на радзіму. Ён расказваў мне: "Усіх нашых дзецюкоў у тайгу адправілі лес валіць. Гародніны ніякай. Цынга і іншыя хваробы скасілі іх. Нам прапаноўвалі настой з хвоі піць. Я піў, а іншыя не маглі, не хацелі, распанелі пры Польшчы. Я выжыў, а яны ...".

Так што палякі хоць пасадзілі, але тым самым выратавалі жыццё. І ў Войску Польскім служыў, як і твой бацька. Абучалі ў войску палякі добра.

Бадай усе ці большасць з тых, хто паслужыў за польскім часам у войску з фронту (1944—1945 гады — *С.Б.*) вярнуліся. А тыя, хто ў Польскім Войску не быў, і забралі ў Савецкую Армію ў 1944 годзе, і аказаліся на фронце пасля вельмі кароткай падрыхтоўкі, загінулі. Не ўмелі ані акапацца, ані схавацца, ані наступаць. Нас, польскіх жаўнераў, можна было з вінтоўкамі супраць немцаў і ў рукапашную кінуць і ў рассыпную наступаць — не падвялі б, перамаглі б — што значыць добра абучаныя. Мяне раніла, але жывы застаўся.

— З Польшчы да Саветаў уцякалі, бо зямлі ў многіх мала было, а зарабіць грошай не было дзе, — сказаў дзядзька Іван. — Але сёння я рады, што той праваднік мяне здаў палякам. Напэўна, ведаў, што ў СССР мяне могуць расстраляць, а тут толькі пастрашаць. Таму праваднік сёння трэба "Дзякуй" сказаць, што я жывы.

Пасля гэтых слоў я ўспомніў, як у 1953 ці 1954 годзе позняй восенню маці прынесла за спіной клунак у хату, скінула яго і заплакала. Сказала мне: "Не лянуйся, вучыся, каб ты тут у калхозе не застаўся. Бачыш, што робіцца? Купілі зямлю пры Польшчы. Хай сабе і няшмат — усяго тры гектары і тую адабралі. А цяпер працуем з бацькам за "палачкі". Вось колькі я зарабіла за ўвесь год. Далі клунак нейкіх азадкаў. Толькі курэй карміць, а не самім есці".

— А тату колькі далі? — запытаўся я.

— А бацька няпоўны мяшок атрымаў. А на работу хадзіў цэлы год, кожны дзень. Гавораць, пры панох кепска жылося. Але я ў пана столькі б зарабіла за адзін дзень — колькі ў калхозе за год. Служылі ў багатых і я, і бацька твой, нейкія грошы сабралі, а пасля брат Іван з Францыі падаслаў" — працягвала выказваць сваю крыўду маці і плакаць.

Я сядзеў за сталом рабіў свае ўрокі, тады вучыўся ў шостым класе, і мне было шкада маці, якая зычыла сыну пакінуць свой кут, абжытае роднае гняздо, каб вырвацца з калгаснага прыгону, дзе працуюць за "палачкі" — працадні, за якія амаль нічога не плацяць. І мне тады ўспомнілася прыпеўка, якую чуў ад вясковых паўп'яных кабет.

*Сядзела баба на раллі*
*І лічыла працадні.*
*— Працадзень, працадзень,*
*Дай ты хлеба хоць на дзень.*

На памяць наляцела і расейская частушка, якая ў нас прыжылася.

*Я в колхоз ишла —*
*юбка новая,*
*А из колхозу шла —*
*ж... голая.*
*А в колхоз я шла обувшись,*
*А из колхозу — босиком…*

Сёлета я расказаў свайму кіраўніку пра сваіх дзядзькоў-уцекачоў. Мой галоўны рэдактар хоць і нарадзіўся пасля вайны, але з Заходняй Беларусі. А як вядома, менталітэты заходніх і ўсходніх беларусаў вельмі адрозніваюцца. Узяць бы хоць такі просты прыклад. Ва ўсіх вёсках Заходняй Беларусі да гэтага часу кожны гаспадар насупраць сваёй сялібы падмятае вуліцу. На ўсход ад былой польскай мяжы такога няма. У вёсках каля Менска ў 1970-х гадах, калі я там настаўнічаў, гаспадыні высыпалі смецце на вуліцу, каб не гразлі калёсы і аўтамашыны. Калі пра гэта я сказаў сваім аднавяскоўцам, дык яны мне не хацелі верыць.

Мой кіраўнік таксама прывёў прыклад пераходу польска-савецкай мяжы мужчынамі з-пад мястэчка Мір. Яны пераходзілі дзвюмя ўзброеннымі групамі. Узброіліся паляўнічымі стрэльбамі. Першая група нечакана абстраляла польскіх пагранічнікаў каля станцыі Негарэлае і аказалася на савецкім баку. Другую ўзброенную групу польскія пагранічнікі не прапусцілі. Акружылі, абяззброілі і ўзялі ў палон. Іх судзілі. Далі ад трох да пяці гадоў турмы. Адсядзелі. Вярнуліся дамоў жывыя, здаровыя. А тыя, хто быў у першай групе, зніклі адразу, назаўсёды. Дзе яны дзеліся — да гэтага часу ніхто не ведае.

А далей гутарка з маім кіраўніком прадоўжылася так.

— Вось я атрымаў адукацыю ў Расеі. Там жывуць мае сын і дачка. Блізкія для мяне людзі. А цяпер давайце ўявім, што тут усталявалася зноў сталінская сістэма. Куды б я ўцякаў? — запытаў я.

— Напэўна, Вы ўлічылі б досвед сваіх дзядзькоў.

— Улічыў бы.

Шкада, што на пачатку XXI стагоддзя беларусы не ўлічваюць досвед старога пакалення. Некаторыя бяздумна едуць у Маскву і Падмаскоўе, нават у Сібір на будаўніцтва. Асабліва складана ім даводзіцца ў Маскве, дзе працуюць падпольна. Зробленыя грошы яны атрымоўваюць несваечасова. Не могуць выехаць дамоў. А калі грошы атрымаюць, дык праблема іх прывезці дамоў. На Беларускім вакзале ў Маскве да іх можа прычапіцца міліцыя. Няма білета — дадуць штраф. У цягніку могуць падсесці зладзеі ці забойцы. І тады будзеш радавацца, што хоць жывога пакінулі, а не скінулі пад адхон. Значна меней беларусаў ездзіць на заробкі ў Польшчу. Але едуць і на захад на будоўлю або на сезонныя сельскагаспадарчыя работы. Каго я не сустракаў пасля вяртання з Польшчы — не крыўдавалі, своечасова гаспадары заплацілі за работу. Спакойна выехалі. Паліцыя іх не пакрыўдзіла. Такога палявання, як у Маскве, на ад'язджаючых работнікаў у Варшаве няма.

Так што, калі ў беларускага чытача стане праблема выбару: куды паехаць на заробткі або ўцячы, дык добра падумайце да якога суседа прыхінуцца. Да таго, што жыве паводле законаў, або да таго, дзе закон, як дышла: куды павярнуў — туды і выйшла.

*Сымон Барыс.*

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага краю**

**12.00 28 траўня 2005 г. Фальв. Сьвіраны**
**субота Віленскі р-н**

Літаратурна-краязнаўчая імпрэза на тэму:

**Сьвяты куточак той Сьвіраны, дзе пуп паэта закапаны**

**У праграме:**

1. Крыжовы шлях і асвячэнне фігуры Ісуса Хрыста.
2. Прэзентацыя кнігі Ўладзіміра Содаля пра Сьвіраны.
3. Выстава мастацкіх твораў Л. Мінкінай і Т. Маркавец.
4. Супольны абед.

**Сьвіраны запрашаюць. Тэл. 2-41-99-92.**

**Юры Гіль.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 05. 2005 г. у 11.30. Замова № 862.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.